Прачытай сам і перадай другому.

№ 24 (4584)

30 сакавіка 2021 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.



# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**



В НОМЕР!

## Виктор Бабарико хочет создать партию «Вместе»

### Экс-банкир передал из СИЗО КГБ обращение к своим сторонникам.

«Я никогда не состоял ни в какой партии и не предполагал, что такая форма объединения людей имеет право на существование в XXI веке, – *говорит Бабарико.* – Но белорусы показывают, что я был неправ.

Нам нужна партия. Но партия не как самоцель, а как наиболее эффективный инструмент достижения нашей победы. Партия нашего будущего, основанного на правде, добре и свободе.

Она должна обеспечить решение следующих задач:

– показать большинству людей, которое устало жить в атмосфере лжи, ненависти и страха;

– объединить действия разрозненных самостоятельных инициатив;

– обеспечить работу групп и объединений и возобновить деятельность внутри страны.

Я верю, что мы сможем это сделать, и моя вера основывается на тех достижениях, которые были продемонстрированы за последний год. Мы помним, как меньше чем за неделю была собрана одна из самых больших инициативных групп в количестве примерно 10.000 человек. Эти невероятно креативные и инициативные люди обеспечили фантастические результаты по вовлечению людей в борьбу за лучшую будущую Беларусь.

В августе прошлого года белорусский народ написал одну из самых славных страниц в борьбе за нашу нацию. Несмотря на циничный обман власти, устрашение и насилие в отношении мирных и безоружных людей, мы не остановились и продолжили борьбу за свободу и независимость не только Беларуси, но и каждого человека. Мы сделали то, что не удавалось сделать предыдущим поколениям: проблемы и судьба Беларуси и белорусов стали центром внимания и сопереживания всего цивилизованного мира. Мы можем гордиться и с честью нести имя «белорус».

Но нам нельзя останавливаться на полпути. Мы должны именно сейчас объединить свои усилия и продемонстрировать единство цели и воли. Не сделать этого – значит вновь пустить в наши души раба, которого мы выгнали в прошлом году и которого нас заставляли кормить последние 26 лет.

Мы обязаны создать партию «ВМЕСТЕ». Должны помочь друг другу поверить в себя, в соседа, в свою страну. Нельзя оставлять раковую опухоль страха и беспомощности нашим детям и внукам.

Да, это не просто. Ужасы, которые мы видим на улицах, сеют зерно сомнений и неизвестности. Однако нельзя забывать, что именно неоправданная жестокость со стороны власти свидетельствует о ее страхе и бессилии перед собственным народом.

Наша обязанность – освободиться от иллюзии силы режима, реально оценить его слабости во всех сферах нашей жизни и напомнить себе о собственных достоинствах и силе.

Успех зависит только от нас. Если мы будем действовать сплоченно, постоянно и последовательно, мирно и адекватно, то неизбежность победы – очевидна.

Нельзя удерживать власть вопреки воле народа!

Вступив в партию, мы будем ежедневно демонстрировать преимущества быть вместе в достижении общей цели. Преимущества, которых лишены в рамках индивидуальной борьбы. И это важно не только для настоящего, но и для будущего.

Будем «Вместе»! Будзьма «Разам»!

**Виктор БАБАРИКО.**

*Минск, СИЗО КГБ».*

***ОТ РЕДАКЦИИ***

***Кто-кто, а известный драматург Андрей Курейчик, прочитав это письмо Виктора Бабарико, воскликнет: наконец-то услышали меня! В прошлом номере «Народной Воли» его статья вышла под таким говорящим заголовком, как «Беларуси не царьки нужны, а мощная политическая сила». И, возможно, она, мощная политическая сила, в скором времени появится. Теперь вся надежда на сторонников Бабарико.***

СУД

## У гомельскім СІЗА судзяць пенсіянера МУС





29 сакавіка ў гомельскім СІЗА-3 пачаўся суд над грамадскім актывістам і палітыкам, былым афіцэрам міліцыі **Уладзімірам Няпомняшчых**. Пра гэта са спасылкай на адваката, з якога ўзята падпіска пра неразгалошванне, паведаміла жонка Уладзіміра Алена.

Раней Уладзімір і сам напісаў у лісце дадому, што суд з 25 сакавіка перанесены на 10 гадзін 29 сакавіка і праходзіць ён будзе ў закрытым рэжыме.

Няпомняшчых судзяць паводле двух крымінальных артыкулаў: 366 – пагроза ці гвалт у дачыненні да службовай асобы пры выкананні службовых абавязкаў і 369 – абраза прадстаўніка ўлады. Санкцыі, асабліва паводле першага артыкула, даволі сур'ёзныя – не толькі штраф, папраўчыя работы, але і абмежаванне волі ці нават арышт на тэрмін да пяці гадоў.

Уладзімір Няпомняшчых ужо чацвёрты месяц знаходзіцца ў следчым ізалятары Гомеля. Яго затрымалі і ўзялі пад варту 23 снежня пасля наведвання Гомельскага раённага аддзела СК, дзе на актывіста завялі крымінальную справу за пагрозу ці гвалт у дачыненні да службовай асобы. У той жа дзень у кватэры Няпомняшчых прайшоў вобыск, у яго забралі камп'ютар ды іншыя носьбіты інфармацыі.

Абвінавачванне супраць Уладзіміра, наколькі вядома, выглядае досыць анекдатычна. А здарылася вось што. У лістападзе былы афіцэр міліцыі прысутнічаў на судзе гамяльчаніна Георгія Васіленкі, які падчас жнівеньскіх пратэстаў супраць фальсіфікацыі выбараў замяніў на цэнтральнай плошчы афіцыйны сцяг на бел-чырвона-белы.

Крымінальную справу ў дачыненні да Васіленкі за злоснае хуліганства разглядаў суддзя Цэнтральнага раёна **Сяргей Салоўскі**, а абвінавачанне падтрымлівала прадстаўніца пракуратуры **Алеся Жураўлёва**. Калізія ў тым, што следчыя на пачатку распачалі справу за здзек з дзяржаўнага сімвала, а пасля перакваліфікавалі на злоснае хуліганства. Санкцыі паводле гэтага артыкула больш суровыя.

У судзе памочніца пракурора горада Алеся Жураўлёва як дзяржаўны абвінаваўца падтрымала кваліфікацыю дзеянняў Васіленкі і прапанавала асудзіць 25-гадовага гараджаніна менавіта на 2 гады абмежавання волі з накіраваннем у папраўчую калонію адкрытага тыпу. У выніку суд і пакараў Васіленку 2 гадамі "хіміі".

На толькі што абвешчаны прысуд эмацыйна адрэагаваў прысутны ў зале Уладзімір Няпомняшчых. Казаў, што справу сфальсіфікавалі і за гэта ўрэшце будуць адказваць усе – пракуроры, следчыя, суддзі, міліцыянеры. Апошняя з іх бачылі замену сцяга на флагштоку, але не рэагавалі на такія дзеянні.

Выглядае, што рэакцыю Уладзіміра Няпомняшчых на прысуд прадстаўніца пракуратуры Жураўлёва і ўспрыняла як пагрозу на свой адрас. Да пагрозы следства дадало яшчэ адзін крымінальны артыкул – публічную абразу прадстаўніка ўлады ў сувязі з выкананнем ім службовых абавязкаў. Відаць, таму, што актывіст выказаў агульную па сэнсе фразу, у якой адносіў сілавікоў да "арганізаванай злачыннай групоўкі".

68-гадовы Уладзімір Няпомняшчых з'яўляецца пенсіянерам МУС. Пасля службы ў міліцыі і звальнення ў запас па стане здароўя ён працяглы час займаўся прадпрымальніцтвам. У горадзе актывіста ведаюць як чалавека, які ўлетку часцяком ходзіць у майцы з надпісам "За Беларусь без Лукашэнкі". Ён яшчэ і сябра Аб'яднанай грамадзянскай партыі. У 2016-м і 2019 гадах на парламенцкіх выбарах Няпомняшчых балатаваўся кандыдатам у дэпутаты, а на мінулагодніх прэзідэнцкіх выбарах выпучаўся "кандыдатам пратэсту" ў спісе Мікалая Статкевіча.

Выбарчую кампанію Уладзімір Няпомняшчых скарыстаў, каб сабраць актыўных гамяльчан для назірання за галасаваннем непасрэдна на выбарчых участках. Калі назіральнікаў не дапусцілі на ўчасткі, ён і яго паплечнікі сталі сачыць за галасаваннем каля выбарчага ўчастка праз акно.

Уладзіміра неаднаразова арыштоўвалі і штрафавалі за ўдзел у мірных акцыях пратэсту ў Гомелі і Мінску.

**Анатоль ЛІПСКІ.**

**На здымках: Уладзімір Няпомняшчых. Алеся Жураўлёва ў судзе.**

ХХІ СТАГОДДЗЕ, У ЦЭНТРЫ ЕЎРОПЫ

## Мінск у баявой аблозе

У апошнія дні мінулага тыдня Мінск выглядаў як сталіца акупаванай краіны. На вуліцах і плошчах было столькі баявой тэхнікі, амапаўцаў і іншых сілавікоў, што, вядома ж, выклікала пэўную трывогу ў грамадзян. "Касманаўты" хапалі людзей, лічы, без разбору. Паводле звестак праваабаронцаў і валанцёраў, у прамежку паміж 25 і 28 сакавіка ў Мінску і розных рэгіёнах краіны ў пастарунку трапілі больш за 500 чалавек (!).

Міжволі ўзнікаюць пытанні: калі ў Беларусь вернецца спакойнае жыццё? І хто яго парушыў і працягвае парушаць? Няўжо тым, хто трымае ўладу на штыках, не зразумела: мільёны людзей будуць змагацца за справядлівасць, за свае законныя правы да таго часу, пакуль яны не будуць адноўлены? Беларускі народ заслужыў і чэсных выбараў, і легітымнага прэзідэнта, і дэмакратычнага ўрада.

Здымкі, якія, шаноўныя чытачы, перад вашымі вачыма, – гэта сведчанне вялікай трагедыі, якую ў XXI стагоддзі перажывае наша родная Беларусь, якую перажываем мы ўсе разам…

*(Працяг тэмы на 2-й стар.)*













XXI СТАГОДДЗЕ, У ЦЭНТРЫ ЕЎРОПЫ

# Мінск у баявой аблозе

(Праціг. Паатак на 1-й стар.)
















ГЕНЕРАЛІТЭТ

# Чаму знялі кіраўніка міліцыі Мінскай вобласці?

*«Народная Воля» даведалася пра прычыны.*

Указ аб вызваленні ад пасады кіраўніка УУС Мінскага аблвыканкама генерал-маёра міліцыі **Аляксандра Кавальчука** быў падпісаны напрыканцы мінулага тыдня. Пра тое, чаму было прынята такое кадравае рашэнне, нічога не паведамлялася. І ва ўказе ніякіх афіцыйных падрабязнасцяў не было.

Аляксандр Кавальчук узначальваў міліцыю Мінскай вобласці з лютага 2018 года. Да гэтага ён чатыры гады кіраваў УУС Магілёўскага аблвыканкама. Там пра былога начальніка адклікаліся даволі добразычліва, нават называлі лібералам. Адзначалі, што Кавальчук, у адрозненне ад аднаго з былых міністраў унутраных спраў **Ігара Шуневіча**, не быў вялікім прыхільнікам паліграфа. Між іншым, адзін час Кавальчука называлі канкурэнтам Шуневіча – выказваліся версіі, што ён можа заняць пасаду міністра ўнутраных спраў.

Аляксандр Кавальчук родам з вёскі Леткаўшчына Слуцкага раёна, вучыўся ў Новасібірскім вышэйшым ваенна-палітычным агульнавайсковым вучылішчы, але пасля распаду СССР перавёўся і скончыў Мінскае ваеннае каманднае вучылішча, Акадэмію МУС.

Генералу Кавальчуку 49 гадоў, ён даволі паспяхова ішоў па службовай лесвіцы: пачынаў оперупаўнаважаным аддзялення крымінальнага вышуку крымінальнай міліцыі ў Слуцку. Генеральскія пагоны атрымаў у сакавіку 2017-га – праз тры гады кіравання УУС Магілёўскага аблвыканкама.

Аляксандр Кавальчук быў адным з тых генералаў, хто пракаментаваў масавыя пратэсты пасля прэзідэнцкіх выбараў-2020. Увогуле, Кавальчук не хаваецца ад журналістаў і адказвае на любыя пытанні. Ён лічыць, што з прэсай трэба сябраваць.

*“Пасля ўсяго пройдзенага хочацца ўжо не рэвалюцыі, а эвалюцыі*, – гаварыў Кавальчук у снежні мінулага года на старонках міліцэйскай газеты. – *Бо рэвалюцыйны шлях, па сутнасці, нічога пазітыўнага для большасці насельніцтва і краіны не нясе – толькі чалавечыя ахвяры, разбурэнне інфраструктуры, заняпад эканомікі. Узнавіць усё хутка, як у казцы, не атрымаецца. Гэта цяжкі і доўгі працэс, а часам – немагчымы.*



*Сёння ёсць пэўны эканамічны спад, прычым не толькі ў нас, але і ва ўсім свеце. Плюс пандэмія. У такія часы якраз і ўзнікаюць пратэсты: калі з’яўляюцца намёкі на нестабільнасць, якія выклікаюць незадаволенасць. А нашы людзі, якім шмат чаго дасталася ад дзяржавы практычна бясплатна, да гэтага часу памылкова мяркуюць, што гэта закладзена прыродай і не залежыць ад працы улад. Вось іх у цяперашняй напружанай эканамічнай сітуацыі і аказалася прасцей пераканаць у неабходнасці тэрміновых перамен. Хоць раней грамадзяне выходзілі на вуліцы таму, што ім зусім не плацілі зарплату і няма за што было карміць сем’і. Але ж сёння зусім па-іншаму...”*

Магчыма, навіна аб сыходзе стала для Аляксандра Кавальчука такім жа вялікім сюрпрызам, як і для генерала **Ігара Яўсеева**, які да нядаўняга часу займаў пасаду памочніка прэзідэнта па Мінскай вобласці? Як высветлілася, не. У выпадку з Кавальчуком адхіленне ад пасады – гэта, так бы мовіць, звычайная планавая ратацыя.

Не выключана, што ў бліжэйшы час генерал Кавальчук атрымае камандзіроўку ў Маскву і будзе прызначаны афіцыйным прадстаўніком Міністэрства ўнутраных спраў у Расіі. Пакуль Аляксандр Кавальчук знаходзіцца ў адпачынку. І чакае прызначэння. Калі нічога не памяняецца, то ён як мінімум на некалькі гадоў з’едзе ў Расію.

Пасада прадстаўніка МУС Беларусі пры амбасадах іншых краін прыраўноўваецца да пасады саветніка дыпламатычнага прадстаўніцтва Беларусі за мяжой.

Прадстаўнікі МУС Беларусі ў замежных дзяржавах звычайна прызначаюцца на тэрмін да трох гадоў. Па службовай неабходнасці гэты тэрмін можа быць прадоўжаны ці скарочаны міністрам унутраных спраў. Прадстаўнікі МУС Беларусі ў замежных дзяржавах размяшчаюцца ў памяшканнях беларускіх амбасад, карыстаюцца дыпламатычнай поштай, тэлефоннай сувяззю, тэлефаксам, у рамках сваёй кампетэнцыі выконваюць загады міністра ўнутраных спраў і Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Рэспублікі Беларусь у дзяржаве знаходжання. Аператыўнае кіраванне дзейнасцю прадстаўнікоў МУС у замежных дзяржавах ажыццяўляе адзін з намеснікаў міністра ўнутраных спраў.

Пасля вяртання з такой дыпламатычнай камандзіроўкі толькі адзінкі заставаліся незапатрабаванымі альбо непрацаўладкаванымі. У розныя гады афіцыйнымі прадстаўнікамі МУС Беларусі ў Расіі былі экс-начальнік галоўнага ўпраўлення крымінальнага вышуку МУС палкоўнік міліцыі **Валянцін Патаповіч**, **Фарыд Канцараў**, які потым даволі паспяхова працаўладкаваўся ў “Газпром”, намеснікі міністра ўнутраных спраў **Віктар Жыбуртовіч** і **Віктар Філістовіч**. Дарэчы, Філістовіч атрымаў гэтае прызначэнне праз некаторы час пасля скандалаў з міліцэйскімі катэджамі на беразе Мінскага мора.

Да нядаўняга часу афіцыйным прадстаўніком МУС Беларусі ў Расіі быў генерал-маёр **Віктар Сенько**. Але ён не так даўно сышоў на пенсію.

Дарэчы, на сённяшні дзень вакантнымі застаюцца крэслы адразу двух начальнікаў абласных упраўленняў унутраных спраў. Пасля прызначэння **Вадзіма Сіняўскага** міністрам па надзвычайных сітуацыях пакуль ніхто не заняў пасаду кіраўніка Гродзенскага УУС. А цяпер яшчэ вызвалілася і месца начальніка УУС Мінскай вобласці.

**Марына КОКТЫШ.**

СІТУАЦЫЯ

# За што з Паўла Севярынца патрабуюць 189 рублёў?

*Палітык знаходзіцца за кратамі з 7 чэрвеня, але грошы неабходна заплаціць яго блізкім.*

Нагадаем, што **Павел Севярынец** быў затрыманы ў чэрвені, пасля гэтага ў дачыненні да яго былі вынесены тры пастановы аб адміністрацыйных арыштах па 15 сутак кожная за ўдзел у перадвыбарных пікетах і заклікі да ўдзелу ў масавых мерапрыемствах.

Пасля 75 сутак адміністрацыйнага арышту Севярынца не выпусцілі, а перавялі ў СІЗА №1 г.Мінска ў статусе падазраванага па **арт.293 КК** (“Арганізацыя масавых беспарадкаў”). Пазней яму было прад’яўлена абвінавачанне.

Днямі маці палітвязня **Таццяна Севярынец** атрымала з аддзела прымусовага выканання Першамайскага раёна г.Віцебска пастанову аб узбуджэнні выканаўчай вытворчасці, у якой сказана, што з Паўла Севярынца трэба спагнаць запазычанасць у суме 189 рублёў на карысць ГУУС Мінгарвыканкама.

– *Я нават спачатку не зразумела, адкуль узялася гэтая запазычанасць у чалавека, які дзясяты месяц знаходзіцца за кратамі*, – распавяла Таццяна Севярынец “Народнай Волі”. – *Усе штрафы былі аплачаны, што за новая лічба з’явілася?*

*Калі пачалі разбірацца, то высветлілася, што такую суму неабходна заплаціць за знаходжанне Паўла ў сталічным Цэнтры ізаляцыі правапарушальнікаў на Акрэсціна з 6 па 20 жніўня мінулага года – за апошнія 15 сутак у ЦІПе. Дзіўна, што раней ні пра якія запазычанасці ніхто не нагадваў, а зараз яна раптам “усплыла”. Са жніўня па сённяшні дзень нам нічога не прыходзіла і раптам – прачнуліся! Чалавека не выпусцілі ні на хвіліну на волю, не далі ніводнага спаткання ні мне, ні жонцы Паўла, затое пра грошы яны не забываюцца.*

Таццяна Севярынец кажа, што на аплату запазычанасці далі ўсяго тыдзень і плаціць давядзецца.

– *Гэта ж палова маёй пенсіі!* – абураецца жанчына. – *Але плаціць трэба. Справа ў тым, што ў нашай кватэры ў Віцебску прапісаны Павел, я і мой муж. Сын мае права на трэць жыллёвай плошчы. Калі ў Паўла было шмат штрафаў за ўдзел у нейкіх акцыях, ён не паспяваў іх аплачваць, а таму наклалі арышт менавіта на трэць нашай віцебскай кватэры.*

*Пасля з даўгамі расплаціліся, і арышт знялі, але зараз калі не аплаціць, то зноў будзе арыштавана частка кватэры. Таму лепш не даводзіць да гэтага. Хаця, безумоўна, сітуацыя проста абсурдная. Чалавека ні за што кінулі за краты, і ён яшчэ за гэта павінен плаціць!*

**Сяргей ЗАБЛОЦКІ.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

# Чаму маўчыць нарвежская кампанія?

*Страйкамаўцы ААТ «Беларуськалій» па-ранейшаму чакаюць адказу ад нарвежцаў.*

Нагадаем, што нарвежская кампанія Yara – адзін з буйнейшых сусветных пастаўшчыкоў мінеральных угнаенняў і адзін з ключавых кліентаў Беларускай калійнай кампаніі.

Апошнім часам кампанія з Нарвегіі імкнулася дасягнуць пазітыўных змен праз дыялог з кіраўніцтвам Беларускай калійнай кампаніі і «Беларуськалія».

Не так даўно страйкам «Беларуськалія» зноў звярнуўся да нарвежскай кампаніі з просьбай не падпісваць кантракт да выканання кіраўніцтвам прадпрыемства вылучаных страйкамаўцамі патрабаванняў.

А вось Беларускі кангрэс дэмакратычных прафсаюзаў (БКДП) заявіў, што ён зацікаўлены ў дзейнасці Yara International на беларускім рынку, бо кампанія з’яўляецца *«ўзорам паводзін сацыяльна адказнай кампаніі»*.

– Ніякіх навін ад кіраўніцтва кампаніі Yara пакуль няма, – *кажа лідар страйкама ААТ «Беларуськалій» **Анатоль БОКУН**.* – Генеральны дырэктар нарвежскай кампаніі **Свенс Турэ Холзетэр** паабяцаў, што з намі выйдуць на сувязь «у бліжэйшы час», але гэты час, відаць, скончыўся яшчэ тыдзень таму.

– **Ці ёсць нейкія крайні тэрмін, да якога нарвежцы павінны вызначыцца з кантрактам?**

– Наколькі я зразумеў, ніякіх дакладных тэрмінаў няма, а пралангацыя кантракта ўжо адбылася. Размова ідзе пра тое, ці гатова Yara скасаваць кантрактныя абавязальніцтвы з-за таго, што працягваюць парушацца грамадзянскія правы рабочых. Будзем чакаць іх адказу…

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ПОЛИТИЧЕСКИЙ СКАНДАЛ

*То, что происходит в нашей стране, – это не просто политический кризис. Его особенность – конфликт интересов людей разных взглядов, разных поколений, глубокий разлом в семейных отношениях. Вот и вспыхнувший на днях скандал вокруг заявления Посольства США в Беларуси лишний раз подчеркивает именно такую природу ситуации, сложившейся в наших родных пенатах.*

*Не будем цитировать высказывания по этому поводу известных аналитиков, экспертов, блогеров, предоставим возможность поразмыслить самим читателям «Народной Воли». С этой целью мы публикуем как документ, обнародованный американской дипмиссией, так и все те материалы, которые появились в виде цепной реакции и стали предметом громкого общественного обсуждения.*

*Заголовок, предваряющий всю тематическую подборку, возможно, в какой-то мере и тенденциозен, но он, полагаем, в то же время и актуален. Его заперсонифицированность имеет и явное обобщающее значение. Есть основания полагать, что и дети других первых лиц государства не разделяют позиции родителей.*



# Не пора ли Владимиру Макею уступить кресло министра иностранных дел сыну?



## Заявление Посольства США

Посольство Соединенных Штатов Америки поздравляет всех белорусов с 103-й годовщиной провозглашения Белорусской Народной Республики в 1918 году. Хотя более века прошло с момента первого провозглашения государственности, последние события показывают, что борьба белорусов за свободу и демократию продолжается. В настоящее время тысячи белорусов всех возрастов публично требуют права определять судьбу своей страны. Многие платят высокую цену за попытку сделать свой голос услышанным, так как режим прибег к запугиванию, насилию и применению смертоносного оружия, чтобы удержаться у власти.

С 1991 года Конгресс США и каждая Президентская администрация неизменно поддерживали суверенитет независимой Беларуси. Акт о демократии в Беларуси 2004 года и несколько обновленных версий этого акта с тех пор оказали поддержку в укреплении демократии, прав человека, независимых СМИ и гражданского общества и были направлены на предотвращение коррупции и посягательств на институты демократии и прав человека. Акт о демократии, правах человека и суверенитете в Беларуси 2020 года сигнализирует о том, что обязательства США остаются сегодня так же актуальны, как и в 2004 году.

Соединенные Штаты поздравляют народ Беларуси с 25 Марта и с нетерпением ждут того дня, когда белорусский народ сможет самостоятельно определять свое будущее.

*25 марта 2021 года.*

## Комментарий пресс-службы МИД в связи с заявлением Посольства США от 25 марта 2021 года

В связи с заявлением Посольства США от 25 марта 2021 г. выражаем искреннюю признательность американской стороне за проявленную наконец-то готовность перевести двустороннюю риторику в конструктивное русло и за поздравление со значимой датой в истории нашей страны. Будем только приветствовать распространение данной практики и на государственные праздники.

Мы признаем свои ошибки и пользуемся случаем, чтобы принести извинения за отсутствие поздравлений с недавним 160-летием принятия Конституции Конфедеративных Штатов Америки, флаг которых по-прежнему дорог многим американцам. При этом движение BLM по всей стране насчитывает десятки миллионов участников.

К сожалению, сегодня американское общество глубоко расколото, как заявил Дж.Байден: *«Я полностью сосредоточен на том, чтобы объединить Америку, объединить наш народ, объединить нашу нацию... Силы, разделяющие нас, очень глубоки и сильны... Давайте начнем сначала. Давайте начнем слушать друг друга, воспринимать друг друга, видеть друг друга...»*

Мы также поддерживаем устремления американского народа к лучшему будущему – в этот день и каждый день! Поэтому считаем, что только подлинный инклюзивный диалог поможет американской нации объединиться в этот сложный момент истории. В качестве бескорыстного жеста доброй воли Беларусь, имея опыт площадки переговоров в рамках ТКГ, готова предложить свои услуги в деле организации такого процесса. Мы окажем любое посильное содействие, в том числе с привлечением наших партнеров по интеграционным структурам.

Хотя прошло более двух веков с момента провозглашения независимости, *последние события в США показывают, что борьба американцев за свободу все еще продолжается. В настоящее время сотни тысяч американцев всех возрастов публично требуют права определять судьбу своей страны. Многие платят высокую цену за попытку сделать свой голос услышанным, так как действующей администрации пришлось даже применить смертоносное оружие и застрелить несколько человек, чтобы удержаться у власти и закрепить итоги выборов.*

Мы восхищаемся мужеством и решительностью американских героев, среди которых Дж.Ассандж, Э.Сноуден и Ч.Мэннинг, которые пожертвовали практически всем ради подлинной свободы и гармонии в американском обществе.

Беларусь вместе с американским народом с нетерпением ждет того дня, когда простой американец сможет свободно и беспрепятственно прогуливаться возле Капитолия.

Мы благодарны назначенному Послу США в Беларуси Дж.Фишер за неоценимую подсказку всему белорусскому народу, когда и каким образом нужно проводить выборы. Безусловно, наше белорусское примитивное и скудное мышление никогда бы не позволило нам самим решить этот вопрос. В знак неимоверной признательности МИД готов вне очереди принять заявку Ее Превосходительства на получение белорусского гражданства, чтобы включить ее в список избирателей и дать возможность участвовать в голосовании. Это же можно сделать и без гражданства на какой-нибудь признанной Дж.Фишер электронной платформе.

Мы не можем не отреагировать и на протянутую американской стороной руку помощи в проведении выборов. Такие достижения американской избирательной системы, как голосование по почте и коллегия выборщиков вместо прямого волеизъявления, могут быть востребованы и изучены белорусской стороной.

Глубоко проникшись вниманием США к судьбе Беларуси, в качестве ответного шага мы можем внести бескорыстный вклад в развитие сельского хозяйства Аляски и эффективное освоение ее земель. В этой связи готовы рассмотреть возможность совместного управления данной территорией.

Могли бы перебросить находящиеся в регионе белорусские строительные организации для передачи опыта и помощи жителям южных штатов в преодолении последствий природной стихии.

Искренне желаем всему американскому народу единства, а также не спотыкаясь подниматься вверх по лестнице американской мечты.

Надеемся, что позитивный тренд в наших отношениях сохранится и мы совместно подойдем к тому моменту, когда сможем с радостью встречать Шестой флот США у морских границ Беларуси!

## Виталий МАКЕЙ
### (сын министра иностранных дел Беларуси):

– Работая ранее в Министерстве иностранных дел Беларуси, всегда гордился, что принадлежу к сообществу профессионалов. Множество раз убеждался в том, что интеллект, образованность, культура и эрудированность наших дипломатов – это не клише, а реальные качества людей, работающих на благо страны.

Тем более печально наблюдать ряд публичных заявлений МИДа за последнее время, включая и нынешний комментарий.

Нарочито хамоватое удальство никогда не заменит аргументацию и стиль. Наоборот: еще сильнее подчеркнет посредственность.

Мне грустно, что мои бывшие коллеги, ко многим из которых я испытываю искренние дружеские чувства, вынуждены мириться с ситуацией, при которой невозможно свободное созидательное творчество. Очень хотелось бы, чтобы в это удушливое время профессионалы сохранили свои знания, навыки, опыт и нравственные ориентиры.

Они нам всем еще понадобятся.

### ДОСЬЕ

*В МИДе Виталий Макей занимал пост заместителя начальника Управления экономического сотрудничества и устойчивого развития в Главном управлении многосторонней дипломатии.*

*До 2017 года Виталий Макей был советником по экономическим и экологическим вопросам в представительстве Беларуси при ООН и работал первым секретарем посольства Беларуси в Австрии.*

*О его увольнении из МИДа стало известно 24 сентября 2020 года. Виталий Макей ушел тихо, ни он сам, ни его отец не делали по этому поводу вообще никаких комментариев. На просьбу журналистов прокомментировать свой уход Виталий Макей тогда ответил так: «Я воздержусь от комментариев. Надеюсь на ваше понимание».*

*Жена Виталия Макея Маргарита подписывала петицию против признания бело-красно-белого флага экстремистским, а после президентских выборов минувшего года, 13 августа, добавила рамку «Остановите насилие!» на свое фото в «Фейсбуке».*

## Владимир МАКЕЙ,
### министр иностранных дел Республики Беларусь:

– Огромное количество комментариев по поводу вчерашнего заявления пресс-службы МИД, при этом конституционное большинство – позитив, говорит о правильности и актуальности вопроса. Кстати, это заявление относится не только к заокеанским партнерам, но и к тем, кто находится ближе... ЛЮБЛЮ БЕЛАРУСЬ!!!



*(Из «Инстраграма», пост был проиллюстрирован фотографией семейной овчарки.)*

КОММЕНТАРИЙ К СНИМКУ

# Кто из уважаемых хирургов согласится делать пластическую операцию Григорию Азарёнку и Андрею Муковозчику?

Конечно, время может вносить определенные коррективы в те или иные законы. Но изменения, которые предлагаются в закон «О государственной службе», – это индикатор того, что те, кто пока еще у руля правящего режима, днем и ночью трясутся от страха. На днях по гостелевидению прозвучало: *«У журналистов* (имеется в виду провластных. – **Ред.**), *сотрудников силового блока и всех тех, кто представляет интересы страны и людей, могут появиться телохранители. Такую возможность предусматривает проектная редакция в закон о государственной защите»*. Более полно карты раскрыл заместитель госсекретаря Совбеза **Александр Рахманов**. Он уточнил, что *«на этих людей также будут распространяться в установленном порядке по решению министра внутренних дел ... дополнительные меры защиты, которые позволят сберечь и их здоровье, и их жизнь, и их имущество от любых преступных посягательств»*.

Казалось бы, высокопоставленному чиновнику и сказать больше нечего. Однако он продолжил: *«Довольно широкий спектр этих мероприятий предусмотрен в законе о государственной защите, начиная от физической защиты и вплоть до легендирования их данных и даже предусмотрена такая норма – изменения внешности»*.

Это же надо дожить до такого страха одиозному Григорию



Азарёнку с БТ, чтобы каждый раз, когда он задумает сделать какой-либо уличный репортаж, придавать ему для *«физической защиты»* двух-трех телохранителей! Впрочем, он уже, видимо, давно боится один появляться на людях. Посмотрите на этот снимок! Видите, кто рядом с ним: оператор и небезызвестный российский телекиллер Константин Придыбайло. В штатском явно тихари и, не исключено, кто-то из профессиональных омоновцев. А чтобы избежать узнаваемости, ему остается одно – изменить внешность. В таком случае без пластической операции не обойтись. Но кто, скажите, из уважаемых хирургов согласится делать ее этому печально известному телевизионщику? Как, впрочем, и всяким муковозчикам, рудям, крятам и им подобным...

Нет, тем журналистам, сотрудникам силового блока и всем, **кто реально отстаивает интересы страны, интересы белорусского народа**, не нужны телохранители, как, впрочем, и легендирование персональных данных, изменение внешности. Не одолевает же страх участников мирных протестных акций, которые требуют одного – восстановления в стране справедливости, проведения честных президентских выборов. Всякие азарёнки и муковозчики, наоборот, из шкуры лезут, пряча от людей правду, подменяя информирование электората зомбированием, за что и получают порой пощечину. И никакие телохранители, никакие суды не спасут их от этого народного позора, если они будут продолжать свое грязное дело.

**Георгий КУЖЕЛЕВСКИЙ.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

# Аляксандр МІЛІНКЕВІЧ: «Улады спяць спакойна, калі «ўсё вакол калгаснае, усё вакол маё»

*Вакол не прызнанага беларускімі ўладамі Саюза палякаў на мінулым тыдні разгарэўся чарговы скандал. На старшыню СПБ **Анжаліку Борыс** і яшчэ некалькіх асоб заведзена крымінальная справа за распальванне нацыянальнай і іншай варожасці. Адбыліся ператрусы і затрыманні. «Народная Воля» абмяркоўвае праблему з экс-кандыдатам у прэзідэнты Беларусі **Аляксандрам Мілінкевічам**.*

**– Аляксандр Уладзіміравіч, вы ўжо ведаеце, што ёсць затрыманыя. У Гродне, Ваўкавыску і Лідзе ў польскіх актывістаў і ў сядзібах прайшлі ператрусы. Яшчэ раней крымінальная справа была ўзбуджана ў адносінах да сябраў СПБ у Брэсце. Што ўсё гэта значыць? Чаму менавіта цяпер з'явілася гэтая крымінальная справа?**

– Наша рэвалюцыя годнасці – з Расійскай імперыяй, у якую мы трапілі два стагоддзі таму, з СССР, з якога ніяк не вырвемся. У краіне жорсткі аўтарытарны рэжым, ён традыцыйна не цярпіць беларускасці, польскасці, яўрэйскасці. Для яго трэба, каб мы па-руску «плясали под дудочку» і «ходили по струночке». Як мы шчыра прызналіся надаўна ў песні, якую склалі на конкурс «Еўрабачанне». Праўда, ім далі ад варот паварот.

Улады бачаць, што, як толькі ў чалавека з'яўляецца нацыянальная ідэнтычнасць, ён не хоча назад у Савецкі Саюз. Па-першае, польскага фобіі былі ў Крамля стагоддзямі, а рэпрэсіі супраць незарэгістраванага Саюза палякаў на чале з Анжалікай Борыс – чарговая праява старых хвароб. Па-другое, пошук вонкавых і ўнутраных ворагаў – любімы занятак постімперцаў. Яны так нацыю кансалідуюць. І па-трэцяе, гэта помста Польшчы за «Белсат», за Праграму Каліноўскага, за самы папулярны тэлеграм-канал, за прытулак апазіцыі.

**– Ператрусы адбываліся не толькі ў актывістаў, але і ў грамадскіх школах, дзе праводзяцца заняткі па польскай мове для дзяцей. Ці азначае гэта, на ваш погляд, што падобныя школы могуць спыніць сваю дзейнасць? Як далёка наогул можа зайсці Лукашэнка ў гэтым пераследзе? І ці сапраўды яму патрэбна дашчэнту знішчыць польскія арганізацыі ў Беларусі?**



– Я не ведаю канкрэтных планаў рэжыму, але не сумняваюся, што для яго польскае школьніцтва, польская культура, касцёл, які гаворыць па-польску і па-беларуску, – гэта чужое, не сваё, не лаяльнае. А сёння ўлады спяць спакойна, толькі калі «ўсё вакол калгаснае, усё вакол маё». Перш за ўсё цалкам кіруемае.

**– Афіцыйная Варшава адрэагавала на арышты тым, што былі выкліканы Часовы Павераны ў Справах Беларусі і яму выказалі пратэст у сувязі з сітуацыяй. Як яшчэ Польшча можа адрэагаваць на пераслед польскай меншасці Мінскам? Ці ёсць у палякаў рычагі, якія могуць сапраўды паўплываць на стаўленне беларускіх улад да польскай меншасці?**

– Польшча не ўвядзе танкі і не прыляціць на натаўскіх самалётах, як нам бясконца абяцае прапаганда. Але знойдзе падтрымку і салідарнасць у Еўрасаюзе, асабліва ў краінах Балтыі. Афіцыйны Мінск стане яшчэ большым ізгоем у вачах дэмакратычнага свету. Дзяржава ідзе да самаізаляцыі і ўсё больш губляе незалежнасць.

**– Чаму, на ваш погляд, менавіта Польшча становіцца ворагам у той час, калі ў Беларусі надыходзіць або палітычны, або эканамічны крызіс?**

– Мудры ў крызісе стараецца сябраваць, а неразумны шукае вінаватых. Наша заходняя суседка традыцыйна прызначаецца вінаватай ва ўнутраных праблемах Беларусі.

**– Дарэчы, польскіх актывістаў вінавацяць у тым, што яны быццам ушаноўвалі антысавецкіх дзеячаў, «праследавалі мэты рэабілітацыі нацызму, апраўдання генацыду беларускага народа». У што бадай ніхто і ніколі не паверыць. Але з іншага боку – як вырашыць гістарычныя праблемы, якія падзяляюць, у прыватнасці, «выклятых жаўнераў» і помнік Бураму ў Польшчы?**

– Нам не вядомы факты рэабілітацыі нацызму і апраўдання генацыду ў польскіх грамадскіх школах у Беларусі. Я лічу, што памяць аб жаўнерах Арміі Краёвай, якія ваявалі з двума таталітарызмамі – нямецкім і савецкім, павінна ўшаноўвацца. Бо яны змагаліся з вялікім злом. І Буры быў да 1944–1945 года адным з такіх воінаў. Але, як толькі пад яго кіраўніцтвам было здзейснена злачынства, якое мае прыкметы генацыду беларусаў, Буры стаўся ваенным злачынцам, і яго гераізацыя непрымальная.

**– На ваш погляд, як будзе развівацца сітуацыя далей, ці сапраўды дойдзе да суда над Анжалікай Борыс і іншымі сябрамі Саюза палякаў?**

– Мне не верыцца, што рэжым у сённяшняй сітуацыі спыніцца. У гэтай гісторыі больш палітыкі, чым юрыспрудэнцыі, і калі мы адстойваем правы чалавека, наш абавязак прыйсці на суд і выказаць салідарнасць з нашымі братамі-палякамі, якія – асабліва ў маім родным Гродне – так шмат зрабілі для вяртання гістарычнай праўды і для культурнага адраджэння, у тым ліку беларускага.

Міхал КАРНЕВІЧ.

РЭЗАНАНС

# Суддзі, які адправіў на «суткі» кіраўніцу Саюза палякаў, бестэрмінова забаранілі ўезд у Польшчу

Пра гэта на прэс-брыфінгу расказаў кіраўнік канцылярыі прэм'ер-міністра суседняй краіны **Міхал Дворчык**, паведамляе *TUT.BY* са спасылкай на партал *wiadomosci.onet.pl*.

Міхал Дворчык паведаміў, што ўрад Польшчы будзе рабіць захады на карысць усіх палякаў, якія цярпяць ад рэпрэсій у Беларусі. Ён падкрэсліў, што прэм'ер Польшчы **Матэвуш Маравецкі** на пасяджэнні Савета Еўропы *«ўзніме тэму рэпрэсій супраць польскай меншасці ў Беларусі»*.

*«У адпаведнасці з указаннямі прэм'ер-міністра Матэвуша Маравецкага суддзі, які асудзіў Анжаліку Борыс на 15 сутак арышту, бестэрмінова будзе забаронены ўезд на тэрыторыю Рэспублікі Польшча»*, – паведаміў Міхал Дворчык.

Старшыню незарэгістраванага Саюза палякаў Беларусі Анжаліку Борыс *(на фота)* затрымалі 23 сакавіка і на наступны дзень асудзілі на 15 сутак за правядзенне кірмашу рамеснікаў «Гродзенскія Казюкі». Як паведамляў у сваім Twitter журналіст **Анджэй Пачобут** (яго таксама пазней затрымалі), яе судзіў **Руслан Гурын** – суддзя суда Ленінскага раёна Гродна.

Пазней пракуратура завяла на Борыс крымінальную справу па артыкуле аб распальванні расавай, нацыянальнай, рэлігійнай альбо іншай сацыяльнай варожасці або розні.

Дворчык падкрэсліў, што кожны беларускі чыноўнік і кожны, хто ўдзельнічае ў рэпрэсіях супраць польскай меншасці ў Беларусі, *«пацярпіць ад наступстваў»*.

*«На дадзены момант мы рыхтуем план дзеянняў, накіраваных на дапамогу пацярпелым, – паведаміў кіраўнік канцылярыі прэм'ер-міністра Польшчы. – Мы таксама разлічваем на салідарнасць нашых еўрапейскіх партнёраў. Згаджацца з пераследам людзей толькі за тое, што яны маюць польскую нацыянальнасць, катэгарычна нельга»*, – сказаў кіраўнік канцылярыі прэм'ер-міністра Польшчы Міхал Дворчык.



РЕПЛИКА

# Пустое место

*С Аллеи славы в Минске исчезла елка народного артиста **Владимира Гостюхина**.*

Конечно, это всего лишь штрих, нюанс, деталь в сегодняшней белорусской картине жизни и настроении, в сложном гражданском противостоянии. И вообще, возможно, исчезновение елки – всего лишь результат долгой зимы, которую дерево не пережило.

С другой стороны, что той вечнозеленой хвое наши морозы? Тем более уж как-то очень ко времени и ситуации загнулось это дерево под самый корешок… Вернее, даже корешка не осталось – только скромная ямочка. Хотя рядом на бульваре Мулявина по-прежнему растут «народные» елки Финберга, Ридигера, Шкарубовой, Вуячича и многих-многих других знаменитостей – пушистые красавицы, хоть на выставку.

А у Гостюхина нет теперь в Минске дерева славы! И мне почему-то кажется, это произошло не от природных катаклизмов. Трудно отделаться от мысли, что кто-то специально выкопал и выбросил его именное хвойное дерево на свалку – как своего рода жест протеста, ответ на скандальное интервью, которое актер Гостюхин пару недель назад дал российскому информационному агентству (ФАН).

Оно просто страшное, это интервью. Я даже сказала бы, бессовестное. Потому что бездоказательное. Унизительное для нас, белорусов, которых, по мнению Владимира Павловича, в нашей стране практически нет, так как 80% населения считает себя русскими. Тем не менее, рассуждая об общественно-политической жизни Беларуси, актер с нажимом рисует кромешный ад национализма, рассказывая байки о чернорубашечниках с факелами в руках в девяностые годы (такого в Беларуси никогда не было, очнитесь!). Но самое невероятное и возмутительное – он голословно оскорбляет покойного писателя-фронтовика, антифашиста Василя Быкова, бросая в его адрес обвинения, по сути, в предательстве: мол, писатель однажды сказал, что «он не на той стороне воевал».




Вас память точно не подвела, Владимир Павлович? И есть ли у вас доказательства, чтобы бросаться такими словами в адрес великого писателя? Свидетели? И как прикажете реагировать на это нам, его соотечественникам? Оставить без внимания невозможно, потому что сам Василь Быков вам с небес уже не ответит. Вот где низость ситуации. Вызвать бы вас на дуэль…

Но в каком-то яростном запале В.Гостюхин несется дальше, и на закуску с подростковой запальчивостью выражает еще и свое «хорошее отношение» к Сталину, по злой воле которого погублены десятки миллионов жизней. В общем, демонический замес мыслей и чувств.

Ладно, нравится человеку Сталин, а Солженицын до белого каления ненавистен – личным гражданским предпочтениям Гостюхина можно только удивляться. А еще человек утверждает, что знаком с открытыми архивами… Не верится. Но как бы то ни было, теперь-то у страдальцев по сильной руке, конечно, большой выбор и лидеров, и идей для личной поддержки. Сегодня можно публично и сказать, и опровергнуть, и яростно поспорить – есть для этого площадки. Но довелись В.П.Гостюхину родиться раньше, жить и творить при Сталине, то с его характером он до своих 75 лет явно не дотянул бы. Потому что артист – человек пылкий, противоречивый, в чем-то даже романтичный, в КПСС однажды вступать отказался. А такие натуры при Сталине перевоспитывались быстро и однозначно – в лагерях. Тогда ни артисты, ни генералы запальчивых интервью не давали, даже помыслить не могли высказать свое мнение, кроме «истинного», утвержденного вождем. Так что ходил бы Владимир Павлович и оглядывался, а на ночь ставил тревожный чемоданчик у кровати. Впрочем, даже говорить об этом сегодня уже как-то утомительно.

Но слова о Быкове нам, белорусам, оставить без внимания нельзя. А как защитить честь и достоинство покойного писателя, который сам не может ответить обидчику? Подать в суд? Возможно, и стоило бы это сделать Союзу белорусских писателей, несмотря на то, что доверия к правовой системе в нашей стране почти нет. Оно подорвано и растоптано самой властью. Наверное, именно поэтому кто-то из минчан решил действовать самостоятельно и эмоционально: пришел, выкопал и выбросил хвою в честь артиста Гостюхина, символизирующую почет и уважение. Сейчас на Аллее славы около Белгосфилармонии осталась только табличка с фамилией, а рядом с ней – пустое место. Так что какие хотите, такие и выстраивайте параллели, уважаемые читатели.

Елена МОЛОЧКО.

ПЕРСОНА

# Сергей Румас под домашним арестом?

*По Минску прошел слух, что бывший премьер-министр **Сергей Румас** вернулся в Минск и оказался под домашним арестом.*

Разговоры о том, что экс-премьер-министр может быть задержан, впервые появились после того, как в начале февраля проблемы с правоохранителями возникли у совладельца Туровского молочного комбината, члена Совета по развитию предпринимательства **Игоря Чернявского**, а позже – и у некоторых банкиров. Аналитики видели в этом скрытую охоту на бывшего премьер-министра, который не только работал, но и приятельствовал с некоторыми задержанными. Однако тогда новость о задержании Румаса оказалась фейком. Выяснилось, что бывший премьер находился в Европе. Он уехал за границу не только для того, чтобы навестить детей, но и по делам. После отставки Румас не скрывал, что хотел бы вернуться в бизнес. Он был по делам в Казахстане, затем – в Лондоне.

В интервью *TUT.BY* Румас не так давно очень коротко прокомментировал возможные претензии к нему со стороны силовиков: *«Мне не хотелось бы так думать. Я действительно знаю их всех достаточно хорошо как профессионалов и порядочных людей»*.

Сейчас внезапно пошла новая волна информации про Сергея Румаса. В бизнес-кругах очень уверенно говорят о том, что бывший премьер-министр якобы не так давно вернулся в Минск и практически сразу был водворен под домашний арест.

«Народная Воля» связалась с супругой Сергея Николаевича и попросила ее подтвердить или опровергнуть информацию, которая гуляет, скажем так, в кругах некоторых бизнесменов.

*«Нет, это неправда*, – сказала Жанна Леонидовна. – *Муж не задержан и не вернулся»*.

Кому выгодно держать в напряжении семью Сергея Румаса? Почему разговоры о его возможном задержании в последнее время возникают слишком часто? Действительно ли у правоохранительных органов есть вопросы к бывшему премьер-министру или всё это – попытка приструнить бывших высокопоставленных чиновников, возможно, готовых поддержать политические перемены?

Стоит заметить, что после отставки Сергей Румас не высказывался о политике, ничего не говорил о результатах президентских выборов и насилии, не распространялся об истинных причинах своей отставки. Все его высказывания и в бытность премьером, и после ухода с должности были предельно корректными и осторожными.

Марина КОКТЫШ.




Сергей Румас умеет отбивать удары.

